Год IV. Верасень № 9 (44)

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. №6

ЗЬМЕСТ № 7-8



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | I, i — I, i. | S, s — C, c. |
| B, b — Б, б. | J, j — Й, й. | Ś, ś — CЬ, сь. |
| C, c — Ц, ц. | K, k — K, к | Š, š — Ш, ш. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | L, l — ЛЬ, ль. | T, t — T, т. |
| Č, č — Ч, ч. | Ł, ł — Л, л. | U, u — У у. |
| D, d, — Д, д. | M, m — M, м. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| E, e — Э, э. | N, n — H, н. | V, v — B, в. |
| F, f — Ф, ф. | Ń, ń — НЬ, нь. | Y, y — Ы, ы. |
| G, g — Г, г. | O, o — O, o. | Z, z — З, з. |
| H, h — Г, г. | P, p — П, п. | Ž, ž — Ж, ж. |
| Ch, ch — X, x. | R, r — P, p. | Ź ź — ЗЬ, зь. |



# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год IV. | Вільня, Верасень 1932 г. | № 9 (44). |
|---|---|---|


## Лёс апошніх беларускіх гімназіяў у Зах. Беларусі.

У 1919 годзе, у пачатку месяца студня, у Вільні, дзякуючы вялікім стараньням беларускага грамадзянства была заснавана Першая Віленская Беларуская Гімназія.

Ад 1919 аж да сёлетняга году Віленская Беларуская Гімназія мусіла многа працярпець гора. Аднак беларускае грамадзянства, якое бачыла ў гэтай школе для свае сялянскае моладзі дарогу да асьветы, да пазнаньня роднага краю, а таксама магчымасьць мець сваю беларускую інтэлігенцыю, якая магла-б служыць для справы адраджэньня беларускага народу, утрымлівала і бараніла яе, даючы пры тым магчымасьць здабыць асьвету нават самай найбяднейшай беларускай моладзі. Гімназія, паміма цяжкога палажэньня, спаўняла свае абавязкі — з яе выходзіла беларуская інтэлігенцыя, барацьбіты за лепшую долю народу, якія вытрывала працуюць у гэтым кірунку да сяньня.

Але няспрыяючыя абставіны ўсьцяж сьпіхалі гімназію на іншую дарогу.

У часе разросту Грамады, тагочасныя кіраўнікі гімназіі папіхалі яе ў абоймы рэвалюцыйнага ўздыму. Пасьля ліквідацыі Грамады гэтыя-ж самыя людзі, на чале з Р. Астроўскім і А. Луцкевічам, толькі перафарбаваўшыся ў г. зв. беларускую санацыю, яшчэ прад некулькі гадамі пхнулі гімназію ў другі процілалажны бок і зрабілі з яе для сябе палітычную базу.

Палажэньне гімназіі рабілася што раз цяжэйшым. Настае гэтак 1932 год (13 год існаваньня гімназіі), калі палажэньне робіцца проста бязвыхадным: гімназія ў даўгох, а пры тым паяўляецца прапазыцыя Віленскага Школьнага Куратара аб пераходзе на паралельныя клясы да польскай дзяржаўнай гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні. Агульны Сход Бацькаўскага Камітэту не згаджаецца аднак на прапазыцыю Куратара і дае наказ Прэзыдыюму Камітэту, які быў зложаны з самых санатараў, утрымаць гімназію далей на старых варунках. Бачачы гэта са-

нацыя ўцякае з гімназіі, хочучы сьцінуць з сябе адказнасьць за ейны лёс. Выбіраецца тады новы Прэзыдыюм, зложаны з прадстаўнікоў розных кірункаў, які дзякуючы сваей працы, паміма таго, што ўрад адмовіўся даць якуюнебудзь помач, утрымлівае і ўрухамляе гімназію на старых варунках, пачынаючы зьбіраць на гімназію грашовыя ахвяры.

У гэты час аднак варочаюцца ў гімназію „санатары", якія йшчэ ня так даўно ад яе ўцяклі і рабілі ўсьцяж розныя перашкоды ў працы Прэзыдыюму над ратаваньнем гімназіі. Зьявіліся яны гэтым разам ужо на тое, каб раз нарэшце з самастойнасьцю гімназіі скончыць. Сабраўшы статутова бязпраўна некалькі бацькоў, „апякуноў" і сваіх прыхільнікаў у залю гімназіі 7.IX с. г. і назваўшы гэта Агульным Сходам Бацькаўскага Камітэту, яны вынесьлі пастанову, у якой пядвузначна сказалі, што трэба зьліквідаваць прыватную самастойнасьць Віленскае Беларускае Гімназіі і выбралі новы Прэзыдыюм Камітэту, зложаны ізноў з самых санатараў, якому і даручылі прадставіць гэту пастанову Школьнаму Куратару.

Польскія ўлады пастанову гэту прынялі да ведама. У той-жа час статутова праўны Прэзыдыюм астаўся бязсільным.

У рэзультаце гэтага 16-га верасьня с. г., як маланка, праняслася па Вільні вестка, што прыватная Віленская Беларуская Гімназія перастала існаваць, а замест яе, на тым самым месцы і з тымі-ж — пакуль-што — вучыцялямі, на падставе распараджэньня школьных уладаў адчыняецца „Беларуская Філія Дзяржаўнай Польская Гімназіі ім. Ю. Славацкага" пад кіраўніцтвам ведамага гр. Радаслава Астроўскага.

Гэткі-ж лёс спаткаў ня менш дарагую Беларускую Гімназію ў Наваградку — замест якой створана Беларуская Філія Дзяржаўнай Польскай Гімназіі ім. Адама Міцкевіча.

І так з днём 16-га верасьня 1932 году перасталі існаваць у нас апошнія дзьве самастойныя беларускія гімназіі. Беларускі дву-мільённы народ у сучаснай Польшчы астаўся без сваей школы, бо-ж гэтых двух філіяў ня можам назваць сваімі беларускімі школамі: яны дзяржаўныя і падлягаюць пад кіраўніцтва дырэктараў польскіх гімназіяў.

Беларускія гімназіі для нашае моладзі былі даступныя, ня толькі духам і роднай мовай, але так-жа і платай за навуку (у дзяржаўных гімназіях, а цяпер і ў беларускіх філіях плата за навуку вышэйшая) і дзеля гэтага нястачу іх найбольш будзе адчуваць сама беларуская моладзь. А ліквідатары беларускіх гімназіяў будуць запісаны на чорнай страніцы беларускай гісторыі.

Я. Н.

# Крыху з нашай гісторыі.

## Жыгімонт І Казімер — вялікія князі літоўскія.

Прошлы раз мы пісалі, што змаганьне паміж Сьвідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічамі кончылася перамогай Жыгімонта і гэтым самым перамогай кірунку, які імкнуўся да цясьнейшай сувязі з Польшчай. Але і Жыгімонт доўга не сядзеў на вялікакнязеўскім пасадзе: ён быў забіты ў 1440 г. змовіўшымися панамі і баярамі.

Якія прычыны маглі выклікаць змову і забойства?

Паводле ўсіх даных, якія да нас дайшлі, Жыгімонт згінуў дзеля свайго тыранства. У працягу васьмігадовай барацьбы з Сьвідрыгайлам, Жыгімонт быў сьведкам страшэннай дэмаралізацыі і здрадніцтва паноў і баяр, якія пераходзілі ад Сьвідрыгайлы да яго і наадварот. Гэтае здрадніцтва так падарвала яго нэрвы, што ён пачаў баяцца здрады на кожным кроку, баязьнь здрады давяла яго да хвараблівай маніі прасьледу — яму ўсё здавалася, што яго нехта здраджае, прадае, цікуе на яго жыцьцё. Пад уплывам гэтага хвараблівага зьявішча Жыгімонт аддаляецца ад паноў і баяр, акружае сябе людзьмі ніжэйшага паходжаньня, раздае ім урады і службы, а паноў і баяр карае дзеля простага даносу. Пры такіх абставінах разышоўся слых, што В князь на прышлым сойме мае перабіць усіх паноў і баяр. — Гэтага слыху было даволі, каб стварылася змова і ў вербную суботу 1440 г. змоўнікі ўварваліся ў Троцкі замак, дзе на высьпе, пасярод вады, прабываў Жыгімонт — і забілі яго.

Пасьля сьмерці Жыгімонта усплыло пытаньне, каго-ж цяпер выбраць на Вялікага князя? Намеры баяр разыходзіліся, адны хацелі бачыць на вялікакнязеўскім пасадзе Сьвідрыгайла, другія — сына Жыгімонта Міхала, а іншыя стаялі за каралевіча Казімера, сына Ягайлы*). Сьвідрыгайла меў шмат ворагаў; што да Міхала, то баяліся, каб ён ня мсьціўся за сьмерць свайго бацькі; такім парадкам прайшла кандыдатура Казімера. Зараз-жа было выслана пасольства ў Кракаў, дзе прабываў Казімер пры двары свайго брата Ўладыслава, з просьбай да Казімера — прыняць выбар, а да Ўладыслава — пусьціць брата на Вялікага князя ў Літву. Уладыслаў згадзіўся пусьціць Казімера ў Вільню, толькі не ў характары Вялікага князя, а ў характары намесьніка польскага караля. Аднак літоўскія баяры прыбыўшага ў Вільню Казімера аб'явілі Вялікім князем, ня гледзячы на супраціў польскіх паноў. Так яшчэ раз быў нарушаны дагавор

*) Ягайла ад чацьвертай сваей жонкі Зофіі (Соўкі) князоўны з Альшан (каля Ліды) меў двух сыноў; Уладыслава, які згінуў у вайне з туркамі пад Варнай (1444) і Казімера, аб якім ідзе гутарка.

з 1432 г., загадваўшы выбіраць Вялікага князя са згоды палякоў.

Пасьля выбару Казімера пачынаецца ў В. Княстве змаганьне. Справа ў тым, што да выбару Казімера прычынілася галоўна каталіцкая (літоўская) партыя, а беларуска-украінскія (праваслаўныя) баяры ня мелі ў гэтым рашаючага голасу. Дык ва ўсходняй частцы В. Княства пачынаюцца бунты. Першым падымаецца Смаленск, каторы хацеў узнавіць сваё самастойнае княства і нават далучыў да сябе Полацак і Віцебск; за Смаленскам падымаецца Валынская зямля, якая так-жа хацела аддзяліцца ад В. Княства; Сьвідрыгайла, які апанаваў Луцак, прысягаў цяпер на вернасьць не Казімеру, а проста польскаму каралю Уладыславу; за ім пайшло Падлясьсе, дзе намесьнікам быў мазур Насута, каторы алдаў падляскія землі з гарадамі Драгічынам, Мельнікам і Бельскам мазавецкаму князю Балеславу; нават Жмуйдзкая зямля не хацела прызнаваць Казімера, а там і Кіеўская выяўляла ахвоту аддзяліцца ад княства... Відаць было, што дзяржава ня мела йшчэ мацнейшага сцэмэнтаваньня, што кожная зьмена на вялікакнязеўскім пасадзе гразіла падзелам і распадам В. Княства...

Але на Казімерава шчасьце ня было ўжо такой згоднасьці, аднамыснасьці паміж паасобнымі правінцыямі В. Княства, як гэта хацят-б было за часоў Сьвідрыгайла; кожная правінцыя цягнула ў свой бок і дзеля таго Казімеру лёгка ўдалося з імі справіцца. У хуткім часе пакараецца Смаленск, Жмуйдзь, Кіеў, варочаецца пад уладу Казімера Падлясьсе, а нават Сьвідрыгайла, пабачыўшы, што ўсе землі вярнуліся да В. Княства, прызнаў уладу Казімера, разам з Валыньню і Падольлем. Такім парадкам Казімеру ўдалося злучыць усе землі В. Княства пад сваей уладаю. Незалежніцкія тэндэнцыі паасобных правінцыяў былі зламаны.

Аднак гэтыя тэндэнцыі мелі сваё значэньне ў будучым устройстве дзяржавы і прывілеях, якія Казімер выдаў паасобным правінцыям. Але аб гэтым пасьля.

Якраз у гэтым часе, калі Казімер скончыў злучаньне распаўзаўшыхся частак В. княства, гіне ў вайне з туркамі ягоны брат Уладыслаў, кароль польскі (пад Варнай у 1444г.). Польскія паны, каб паддзяржаць унію Польшчы з Літвою, выбіраюць сваім каралём таго-ж самага Казімера, В. князя літоўскага. Казімер, пад націскам літоўскіх баяр, ня хоча прымаць польскае кароны. Тагды палякі выбіраюць на караля Балеслава мазавецкага, швагра кандыдата на літоўскі трон Міхала, сына Жыгімонта. Тут Казімер зразумеў, што Балеслаў можа памагчы Міхалу заняць літоўскі трон і тагды Казімер можа астацца і бяз польскага і бяз літоўскага трону. Трэба было йсьці на ўступкі і прыняць польскую ка-

рону. Такім парадкам Казімер пад прымусам стаўся польскім каралём.

Стаўшы польскім каралём Казімер пастанавіў задабрыць таксама і літоўска-беларускіх баяр. Ён перад ад'ездам сваім на каранацыю ў Кракаў выдаў 2 мая 1447 году прывілей, які меў вялізарнае значэньні для нутранага строю В. Княства. Паводле гэтага прывілею давалася вялікім землеўласьнікам поўная ўлада над зямлёю і працаваўшымі на ей сялянамі у падаткавых і судовых справах; землеўласьнікі былі звольнены зусім ад дзяржаўных падаткаў; каталіцкаму духавенству была дадзена гваранцыя, што чужынцамі (якія ня былі родам з В. Княства) ня будуць абсаджваны духоўныя вакансіі, хіба толькі ў тым выпадку, калі-б з тутэйшага духавенства ня было годных кандыдатаў (так!); так жа і на сьвецкія ўлады ня можна было назначаць чужынцаў з („каруны“). Агулам бяручы гэты прывілей з 1447 г. даваў літоўскаму, беларускаму і ўкраінскаму баярству бадай такія самыя правы, якія мелі польскія паны ў „кароне“, г. зн. ў Польшчы. Болей таго, прывілей рабіў баяр В. Княства як-бы „гаспадарамі“ над іхнымі землямі, так што яны станавіліся ў пэўную незалежнасьць ад Вялікага Гаспадара (В. князя). У В. Княстве ўстанаўліваўся палітычна-грамадзкі строй, падобны да сярэдневяковага фэўдалізму, які панаваў у заходняй Эўропе. Вялікі князь, як галоўны гаспадар, траціў пэўную ўладу ў В. Княстве на карысьць меншых „гаспадароў“ і прымушаны быў лічыцца з гэтымі меншымі „гаспадарамі,“ якія мелі голас ва ўсіх дзяржаўных справах.

Такім парадкам прывілей з 1447 г. зьнішчыў магчымасьць разьвіцьця абсалютнай улады ў В. княстве, а даў пачатак разьвіцьцю арыстакратычнай улады, на чале з вялікімі панамі—магнатамі. Апроч гэтага важным пунктам гэнага прывілею было яшчэ і тое, што землеўласьнікі не плацілі за сваіх сялян ніякіх дзяржаўных падаткаў, што потым вельмі ад'емна адбілася на дзяржаўных фінансах: пры фінансавых труднасьцях В. князь зварочваўся ужо не з наказам плаціць падаткі, а з просьбай, каторай не канешне ўсе слухалі. Падобныя прывілеі былі выданы ўсім землям В. Княства, чым была паміж іншым завершана роўнапраўнасьць літоўскага (каталіцкага) і беларуска-украінскага (праваслаўнага) вышэйшага баярства.

Такім чынам на падставе прывілею з 1447 г. і розных паасобных прывілеяў, выданых аддзельным правінцыям, зарысаваўся агульна-дзяржаўны срой В. Княства. Галоўныя асновы гэтага строю былі такія: 1) палітычная аддзельнасьць і нутраная самастойнасьць кожнай правінцыі, на чале з сваім мяйсцовым князем, 2) пашырыліся правы земле-

ўласьнікаў, якія становіліся напоўнезалежнымі фэўдаламі, 3) агранічвалася вялікакнязеўская ўлада на карысьць „гаспадароў,“ паасобных правінцыяў і вялікіх землеўласьнікаў. Гэтакі строй арыстакратычна-магнацкі панаваў у В. Княстве праз цэлае стагодзьдзе, блізка да палавіны 16 стагодзьдзя. Ад гэтага часу арыстакратычна-магнацкі строй уступае месца строю болей „дэмократычнаму“, у якім верх бярэ другая шляхта, якая прэ, насупроць заданьням магнатаў, да поўнае уніі з Польшчай. Поўная унія з Польшчай мела даць дробнай шляхце большыя правы, такія, якія мела шляхта ў „кароне“, дзе гаварылася, што „szlachcic na zagrodzie równy wojewodzie.“

В. Г.

## Ab kulturnych formach žyćcia. 8)

### Budźma akuratnymi!

Pad słovam „akuratnaść“ razumiejemo pierad usim hetak zvanuju punktualnaść. Hłybiej adnak biaručy spravu siudy-ž treba zaličyć i dbajlivaść čałavieka jak ab samym sabie, tak asabliva ab svaim adnošańni da asoby inšaj, da jahonaj pracy, da jahonaj majemaści.

Pryniata ŭ naš viek zvyčajna rachavać, što kožny čałaviek jość „samapanam“, h. zn. što jon volna rasparadžajecca samym saboj. Ale, z druhoha boku, čałaviek nikoli nia byvaje ŭ śviecie sam adzin, i zaŭsiady patrebuje —choć-by i najmienšaj — pomačy čužoj. Dziela taho i najbolšaja navat, ale dobra zrazumiełaja asabistaja svaboda musić končycca tam, hdzie pačynajecca svaboda inšaha čałavieka. Znajści hranicu pamiž svabodaj svajej ułasnaj, a svabodaj svajho bližejšaha ci dalejšaha susieda, i pavodle hetaha pastupać u žyćci — heta abaviazak kožnaha sapraŭdy kulturnaha čałavieka.

Jak-ža niezavidna pradstaŭlajecca heta sprava ŭ praktyčnym našym žyćci! Pryjšci kudy-niebudź abo što-niebudź zrabić u ścisła aznačanym ci napierad umoŭlenym časie, heta ŭ našych varunkach aznačaje amal stacca „biełaj varonaj“ i tracić što dnia najmienš paru hadzin času na samaje tolki čakańnie. Błahi zvyčaj systematyčnaha spaźniańnia adnak nia tolki nia minaje, ale naadvarot — uzmacoŭvujecca; jon byccam dabivajecca dla siabie ŭ nas „prava hramadzkaści,“ nia tolki na „nizoch,“ ale i na „viarchoch,“ bo brydkaje spaźniańnie pačynaje ŭžo amal naležać da „dobraha tonu.“ A ad „viarchoŭ“ biaruć prykład „nizy“ dy jašče „dadajuć“ ad siabie. Atrymoŭvujecca hetak niejki dziki stan, pry katorym jakaja-

niebudź hramadzkaja praca stanovicca prosta nieŭmahatu: kožny choča karystacca z pravoŭ, ale roŭna nichto nia choča nieści abaviazkaŭ. Kolki praz heta tracicca asabistaha i narodnaha dabra!

Inačaj pradstaŭlajecca heta sprava ŭ ludziej sapraŭdy kulturalnych. Prosta bajkaj zdajecca być, što ŭ niekatorych niamieckich krajoch spaźnieńnie čałavieka napr. da kaścioła ci ŭ jakoje inšaje zbornaje miejsca rachujecca hrubym niataktam u adnosinach da tych ludziej, što tam u čas užo sabralisia. Niemiec napr. nia pojdzie susiom ŭ kaścioł, a ŭ najhoršym razie stanie tolki ŭ parozie i nikoli nia budzie raśpichacca łokciami napierad, kali pryjści tudy ŭ čas čamuści spaźniŭsia: hetakim raśpichańniem *pieraškadžaŭ-by* malicca ludziam u čas pryjšoŭšym i zaniaŭšym spakojna miejsca, a hetaha dapuścicca čałaviek kulturalny nikoli nia moža.

Toje-samaje z zajmańniem miajscoŭ napr. u teatrach: chto spoźniŭšysia dabivajecca zaniać svajo miejsca, toj pieraškadžaje tym, chto tam užo sabralisia... Słovam usi dy ŭ takich vypadkach treba tak pastupać, *kab nia być ciažaram dla ludziej inšych*, asabliva-ž, kali hetyja apošnija bolš akuratnyja za nas.

Hetulki što da akuratnaści ŭ sensie aščadžańnia čužoha času.

Nia mienš važnaj ad času jość adnak i ŭsiakaja inšaja ludzkaja majemaść, jakaja časova apyniajecca ŭ našym raspadžeńni. Prychodzić tut pad uvahu pierad usim roznaje pazyčańnie, ab katorym narodnaja prykazka kaža, što „nia daj— nia susied, a daj, — sabie niet." Na vialiki žal, horkaja heta praŭda! Voś-ža praviłam dla sapraŭdy kulturnaha čałavieka musić być, kab:

1. abychodzicca zaŭsiady svaimi sobskimi rečami i *pazyčać čužyja tolki ŭ krajnim vypadku;*

2. pazyčanyja rečy bierahčy z bolšaj uvahaj, čym svaje sobskija i addać ich zaŭsiady ŭ ruki ŭłaśnika, u čas napierad ścisła aznačany;

3. kali-b niešta sapraŭdy važnaje stajała na pieraškodzie da vykanańnia punktu 2-ha,tady treba raniej, abo prynamsia ŭ umoŭlenym časie zvarotu čužoj rečy ab staŭšajsia pieraškodzie paviedamić ŭłaśnika i paprasić jaho pačakać;

4. toje samaje z spaźnieńniem na ŭmoŭlenyja zborki, schody, pasiedžańni i h. d.: dobra vychavany čałaviek nikoli nia zmušaje inšych čakać na siabie. A kali-b tak zdaryłasia— zdarycca-ž moža ŭsialak, što spaźnieńnie abo i susiom adsutnaść na ŭmoŭlenym schodzie sapraŭdy byli niaŭniknionymi, dyk vychad z hetaha moža być dvajaki: abo pryjści z spaźnieńniem, abo nie pakazvacca susiom. U abodvuch vypad-

kach abaviazvaje asabistaje vybačeńnie pierad sabranymi, abo pierad haspadarom ci pačynalnikam sabrańnia. Kali čałaviek tolki spoźnicca, dyk jon abaviazany tady vytłumačycca na tym-ža schodzie; kali-ž jon susiom na ŭmoŭleny schod nia źjavicca, tady musić: a) ab pieraškodzie paviedamić piśmienna abo vusna za pasiarednictvam inšaj asoby nie paźniej umoŭlenaha času zborki i b)pry pieršaj-lepšaj sustrečy ci zborcy vytłumačycca vusna asabista.

Urešcie ŭvaha, jakuju treba było-b zamiaščać napieradzie kožnaj staćci, kožnaj knihi i to najmienš praz dziesiać hod času: *ab pašanavańni ludzkoj pracy*. Reč tym dziŭniejšaja, što dla hetaj pracy za mała pašany byvaje jakraz ad tych, chto cełaje žyćcio svajo ciažka pracuje: šeraja „narodnaja hušča." Heta javičša maje hłybšy psycholohičny padkład. Usio razam uziataje musić adnak kiravacca da taho, kab naležna canić ludzkuju pracu i achvotu da ŭtrymańnia ładu i paradku. I tut jakraz dziejacca ŭ nas rečy, što „klićać ab pomstu da nieba:" kolki ni trudzicca, kolki ni starajecca dbajlivaja haspadynia ŭtrymać u svajoj chacie čystatu i paradak, prychodzić pieršy lepšy „hość" i na nahach svaich naniasie hetulki hrazi, a to i prosta hnoju, što choć vozam vyvazi. Heta zdarajecca ŭ nas na kožnym kroku i ad hetaha treba za ŭsiakuju canu advyknuć. Praviłam musić być dla kožnaha, chto ŭvachodzić u žyłoje (i ŭsiakaje inšaje) pamieškańnie, pierad usim

*ačyścić nohi!*

Inačaj, chaj nia maje za zło, kali „haścia" ab hetym napomnić haspadynia domu, navat nie zaŭsiody hładka.

Chto kura, chaj viedaje i rachujecca, što jość ludzi, dla katorych dym heta prosta atruta. Nikoli nielha kuryć u pamieškańni, jakoje służa čałavieku za spalniu.

Nia sposab pieraličyć i na vałovaj choć-by skury ŭsich vypadkaŭ akuratnaści čałavieka pierad saboj samym i pierad svaim bližnim. Možna i treba adnak zaŭsiady tak pastupać, kab našaj svabodaj nia była ahraničvana svaboda našaha dalejšaha ci bližejšaha susieda.

Heta jość najpaŭniejšaja mierka ludzkoj akuratnaści.

*V. S.*

# Літэратурны аддзел.

## З ЦЫКЛЮ — ЕЙ.

Верасьнёвы вецер песьціцца,
Ціха ночка штось шуміць.
Адзінота ў вачох сьвеціцца,
Ты сумуеш і ня сьпіш.

За вакном бярозы лісьцямі
Абнялі пахілы тын.
Мро'і, ўзоры залацістыя,
Тчэ у сэрцы успамін.

Аб мінулым, што прысьнілася,
Чаго прагнула душа,
Як шумела і ірдзілася
Цьветабоямі вясна.

Ня тужы... хай вецер песьціцца,
Хай сумуе ціха ноч,
Ў маім сэрцы полым сьвеціцца
Златакарых тваіх воч.

**М Машара.**

## НАСТУПЛЕНЬНЕ ВОСЕНІ.

Лета мінула.
Восень настала:
Дзень убывае,
Халадзець стала.

На полі сумна —
Бульбу капаюць;
Лісты жаўцеюць
І ападаюць.

Туман на ранку
Зямлю ўкрывае;
Дробненькі, чысты
Дождж палівае.

Ў падворку гразка;
Сад лісты ўслалі;
На агародзе
Кветкі павялі.

Зьнікли кузуркі;
Прапалі мушкі;
Да вясны познай
Замоўклі птушкі.

Праз дрэвы голы
Зіма глядзіцца,
Дзеці, да школы!
Пара вучыцца!..

**А. Жук.**

## РЭПА І РЭДЗЬКА.
(Байка).

Спорылі раз рэдзька
З рэпай ў агародзе,
Хто з іх мае лепшу
Пашану ў народзе.

Рэпа гаманіла,
Што яна каротка,
Пекна, сакавіста
Ды пры том салодка.

Рэдзька так казала,
Што яна хоць горка,
Але разам з мёдам
Была-бы як моркаў.

Тут пчала сказала
З макавае краскі:
„Мёд аднак салодкі
Бяз чужое ласкі“.

Кожны мае смак свой
І сваю прыроду,
Ложка толькі дзёгцю
Псуе бочку мёду.

**Я. Вількоўшчык.**

## ЦЫГАН І ВОЎК.
(Байка).

Вядомую прыказку ўсякі знае з нас
Што галоднаму хлеб толькі ўноч сьніцца;
А ваўку з цыганом прыходзіцца ня раз
Галоднымі ўсьцяж па сьвеце валачыцца.
На раду важную, як далей будуць жыць,
Зыйшліся раз яны і так пастанавілі:
На полі працаваць — каб хлеб сабе здабыць!
Дык вось прымерна так з сабою гаварылі:
— „Я розумам багат, а ты дык маеш спрыт“ —
Так гаварыў цыган да слухаўшага воўка —
—„Так што ня толькі я, а будзеш і ты сыт,
Як загарэм зямлю і хораша і лоўка!“
—„І будзем есьці ўжо“—спытаўся зара, воўк,
—„Не, „бацько“, пачакай, яшчэ пасеяць трэба.
На‘т цяжка сам ўздыхнуў і зараз-жа замоўк,
А воўк пытае зноў, калі здабудуць хлеба.
—„Ды хай яшчэ узыйдзе!“ — адказаў цыган,
Ды вырасьце, як лес, пасьля яшчэ нальецца,
Ды толькі колас хай уродзіць як качан“.
А ваўку ужо ўвярху на ёлцы хлеб здаецца.
—„Дык будзем есьці ўжо?“—пытае шчыра воўк
—„Не „бацько,“пачакай, яшчэ нажаці трэба
Ды сноп абмалаціць, ды мельнік каб змалоў,
А ўжо з мукі тады мы напячэм шмат хлеба“.
—„Дык будзем есьці ўжо?“ — яго зноў воўк спытаў.
Баючыся аднак, каб не дайшло да спрэчкі,
—„На гэта пройдзе год!“—цыган так адказаў
І коні красьць пайшоў, а воўк—лавіць авечкі.

**Я. Вількоўшчык.**

## ГУКІ ДАЛЁКІЯ.

Гукі далёкія, гукі чароўныя,
Ціха-салодкія, мілыя, родныя
Песьняў тых, з цудных, дзіцячых гадоў!
Вас ў адзіноцтве я чую ізноў.

Цуднай мэлёдыяй ў сэрцы мне граеце,
Часам і гора і сум праганяеце,
Гымнам сьвятым вы пяеце ізноў
З цуднай краіны дзіцячых гадоў!

Віхры халодныя, віхры жыцьцёвыя
Зьнішчыць ня здолелі вас, гукі родныя!
А песьні чужынцаў на нашай зямлі
Вас замяніць мне ніяк не маглі.

Гукі далёкія, мілыя родныя!
Грайце-ж, магутныя, грайце-ж, чароўныя,
Дзіўнай мэлёдызй ў сэрцы маім,
Пакуль яшчэ струны трымаюцца ў ім.

**Міхась Явар.**

## CHTO JON?

Hultaj za rabotu,
A mazol za ruki:
Mnoha wyliŭ potu,
Šmat daznaŭ jon muki!
To u chatu zajdzie,
To brodzić pry rečca:
Miejsca jon nia znajdzie—
Niama kudy dziecca!
U pavietry paryć,
Na dvare panura,
Sonca vielmi žaryć —
Budzie peŭnie bura.
Treba jšci na pole,
Až na sienažaci..
(Ech, ty dola, dola!) —
Siena paskładaci.
Treba hrabli prawić,
Krychu padhalicca,
Mama ješči zwaryć,
Tahdy pajdu mycca.
„Viercie mnie, dziaŭčata!
Što było-b paroju,
Kab prypomniŭ tata
Hrabli ŭziać z saboju".
Čorny chmary chodziać—
Choć ty razarvisia!
Sienu nie zaškodziać,
Bo jada u misie.
Smačnaja sałata —
Žal było rasstacca —
Kab ja žyŭ, dziaŭčata,
Nia moh adarvacca".
Choć nia skončyŭ chleba,
Skruciŭ papiarosku,
Zakuryŭ, jak treba,
I pabieh praz wiosku.
Jon da siena walić,
Až duch z jaho precca.
Piarun jak zasmalić —
„Hdzie-ž tut mnie padziecca?"
Kab jano zhareła!
Niachaj jaho djabły!
Pamiać adlacieła —
Ja zabyŭsia hrabli".

**A. V.**

---

# Šrom. (2)

Hudzić małatarnia ŭ vializarnym humnie; ababity doškami šypić paravik. Mašyna skora pracuje, a i šmat patrabuje ludziej: nia možna jaje pakinuć adnej: musić pry joj być čałaviek — kiraŭnik i dahladčyk, musić čałaviek złučyć svaju pracu z pracaj mašyny, tahdy tolki budzie mašyna karysna. Šmat ludziej ŭvichajecca pry małatarni: uharu na jaje biazupynna švirhajuć snapy: tam stajać dva zdarovyja parabki i hetyja snapy łoŭka pchnuć u horła mašyny; vysoka ŭharu pchniecca sama sałoma až za humno, na samy słoh, tam

dzieŭki i chłopcy jaje topčać. Pad samaj małatarniaj pryviazany miaški, jany chutka napaŭniajucca čystym zbožžam i adsyłajucca ŭ śvirny. Rabota jdzie spraŭna i łoŭka: usie kapošacca, jak muraški; nia možna ani na momant zatrymacca; tolki adzin mašynisty staić i važna lulku kuryć. Akanoma niama i parabki čujucca svabadniejšymi: čas da času razdajecca hdzie-niehdzie kryk, śmiech i žarty, asabliva pry stahu sałomy.

— „Hej ty, Šrom! Što staiš, raziaviaka? Tapčy, bo zaraz tabie akanom plečy patopča—kryknuŭ chtoś šutliva na Šroma.

Nia kryčy na jaho — jon zadumaŭsia, jak jamu z Varonkaj ažanicca — zaśmiajaŭsia druhi.

Cha, cha, cha,—razdaŭsia śmiech —akanom, pierš za jaho, kazali, ažaniŭsia z Varuśkaj..

— Ažaniŭsia, dy skora i razłučyŭsia. Ciapier Varuśka volnaja — zaśmiajaŭsia hrubym basam Piatruk, zdarovy chłapiec. — Šroma jak varam abvaryła, kali jon heta pačuŭ. U jaho zadryželi ruki i nohi i niešta joknuło pad sercam.

— Što staiš, jak burak na hradzie? Vot raziaviaka, zaraz viłami ŭ žyvot parnu, adstupisia — znoŭ razdaŭsia hołas Piatruka.

— Nie čapaj jaho, bo na viasiele nie paprosić — adazvaŭsia chtoś iz starejšych.

— Nie na viasielle, a chiba pierš u kumy — adkazaŭ złosna Piatruk. Hromki śmiech razdaŭsia kruhom.

Šrom budzie mieć łasku ŭ akanoma, kali aženicca z Varuśkaj. Ty, Piotra, z im nie zadziraj—adkazała stojačy na stahu kabiecina cieńkim hałaskom...

Pry hetych słavach usie tak ščyra zaśmiajaljsia, što až na chvilinu prypynili rabotu. Nie śmiajaŭsia adzin tolki Šrom.

U sercy jaho noč ciomnaja, ciomnaja. Złosnyja słovy parabkoŭ hłybaka zapali ŭ dušu Šroma. Chacia jon mocna vieryŭ, što Varuśka jošć dziaŭčynaj dobraj i ni z kim nie zajmajecca, adnak tyja słovy, jak złosnaja jadavitaja źmiaja, ŭlezli až pad samaje jahonaje serca i pačali tam smaktać tak nydka, dakučna, što ani jaje adtul vyrvać, ani ad jaje adčapicca. Haračaja kroŭ, što žar chłynuła ŭ tvar, ciapier źbiehła da serca, tudy, hdzie heta hadzina, abkruciŭšysia kala jaho, smokča i smokča... A ŭ dumkach staić akanom, had, što moža hvałtam napaŭšy byŭ na Varuśku... usio było mahčyma, usio...

Šrom cicha ŭzdychnuŭ, ślozy nabiehli da vačej. Jon pačaŭ chutka kidać viłami sałomu i staraŭsia, kab nichto hetaha nia prykmieciŭ. Ach! Što-b jon daŭ, kab hdzieś skrycca jamu ad ludziej, kab jaho nichto nia vidzieŭ, nia čuŭ! Mašyna burčyć, byccam złuje na ŭsich za toje, što ludzi tut śmiejuć havaryć, kali jana tak ščyra pracuje.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Doŭha nia moh Šrom zasnuć: poŭna ŭ jahonaj hałavie dumak. Nie viasiołyja jany: honiacca adna za adnej, jak čornyja chmary, zakryli jany sonca i zdajecca vot-vot zapłačać, palijucca bujnyja ślozy... Nijakaha ŭ hetych dumkach niama tołku i składu, biahuć tolki da Varuśki i pytajuć, ci heta praŭda? Nie, nie! — ćviardzić jon pa sto razoŭ, niapraŭda, niapraŭda! A ŭsio na dnie dušy astajecca sumniŭ: tak, a moža być i praŭda — i ŭspłyvaje fihura akanoma z zadziortymi vusami i z vačyma, jak u hada, što nikoli nie śmiajucca. A voś ciapier zaśmiajalisia jany nad dolaj Šroma, zaśmiajalisia čartoŭskim, złosnym śmiecham: tak, heta praŭda, ja... cha, cha, cha, cha, cha, Varuśka słaŭnaja dziaŭčyna...maja, maja... była... cha cha... biary jaje ciapier sabie... biary, cha, cha... Znoŭ uspłyvaje postać Varuśki biednaj, zapłakanaj sirotki...

Užo było pozna, kali Šrom zasnuŭ. Ciažki jahony byŭ son: śniłasia jamu, što jon išoŭ praz niejki čorny les pozna ŭnočy. Jon žbiŭsia z darohi i nia znaŭ, kudoj iści, jon doŭha chadziŭ, kryčaŭ, a nichto nie adzyvaŭsia. Šumieli tolki vysokija drevy. Adyli vyšaŭ na niejkuju palanku: kruhom ścianoj stajaŭ stary, husty les, z katoraha razdavaŭsia ryk źviaroŭ i kryk ludzki: ratujcie, ratujcie. Hołas hety to zamiraŭ, to ŭznoŭ jašče hramčej razdavaŭsia: jon byŭ poŭny niejkaj bieznadziejnaj rospačy i małby, pryzyvaŭ usiej dušoj kahoś na pomač. Šrom chacieŭ biehčy na zoŭ, dy nia moh: jamu padkasiła nohi, ani šahu stupić nia zdoleŭ. Zdałosia jamu, što ŭžo ŭsio ŭcichła, až voś raptam vybiahaje na palanu z raździortaj saročkaj, z raspuščanymi vałasami, u strašennaj tryvozie, Varuśka i vyciahivajučy ruki, kryčyć: „Ratuj, Šrom!“ A za jeju vyskačyŭ ahramadny źvier z hałavoju akanoma... Šrom choča biehčy — i nia moža. Jon kryčyć: „Varuśka, da mianie!“ i pračychajecca, zality potam, i trasučysia na ŭsim ciele.

(d. b.). J. B—na.

---

# Da nas pišuć.

## ŠUMNAJE ŽJAVIŠČA.

v **Tałminava,** parafija Muravanaja-Ašmianka, Ašmianskaha pav. Usim badaj užo dobra viedama, što polskija ksiandzy na Biełarusi, zamiest pilnavać kaścioła i relihii, parabilisia ahitatarami šovinistyčna-nacyjanalnych polskich arhanizacyjaŭ, pierad usim „Stowarzyszenia Młodzieży Polskiej“ i kožny starajecca jak najbolš maładych biełaruskich duš pierakrucić na polskija.

Naš ksiondz taksama nie adstaŭ, jon užo navat da taho dajšoŭ, što moładzi, jakaja chodzić u pracesijach, a nia choča

žapisvacca ŭ „Stowarzyszenie“, hrazić, što vyhanić z pracesii, a kab moładź naša, trafiŭšy ŭ „Stowarzyszenie“, straciła navat svoj vonkavy vyhlad, jon zahadvaje joj nasić polskuju nacyjanalnuju vopratku.

Narod bačačy takija pastupki ksiandza pamału, ale ŭściaž dalej adychodzić ad Kaścioła.

K a t a l i k.

## BIAZPŁODNAJA PRACA.

v. **Aksiutava**, Brasłaŭskaha pav. U 1926 h. załožana była ŭ nas polskaja škoła, pry jakoj u 1927 h. vučyciel Chavanski sarhanizavaŭ „Koło Młodzieży Wiejskiej“ i pačaŭ viaści navuku, razumiejecca — papolsku, nia tolki ŭ škole, ale i paza škołaj. I voś-ža da siańniašniaha dnia nad hetaj navukaj, abo jak jany kažuć „wyrobieniem kulturalnych ludzi“ pracavała až dvuch vučycialoŭ, ale karyści z hetaha zdajecca nijakaj niama, bo moładź naša badaj što navat knižki da nabaženstva pračytać nia moža, ale zatoje dobra vystryhaje biełaha arła z papiery i piaje „Jeszcze Polska nie zginęła“, dalej, vypiŭšy hromka kryčyć na skokach: „kołeczko!“

Dyk voś čaho naša moładź navučyłasia budučy ŭ „kulturalnej polskiej placówce“.

Ja tut chaču źviarnuć uvahu dla svaich bratoŭ, što hetym my sabie ničoha nie zdabudziem, a budučyniu mieć budziem ciažkuju. Źviarniemosia, braty darahija, łepš u tuju staranu, adkul płyvie hołas rodny — biełaruski, jaki kliča da adradžeńnia baćkaŭščyny Biełarusi i za im družna i śmieła idziom hramadoju; budučynia budzie śvietłaj.

P a v a r e š k a.

## ЗАКЛАДЗІНЫ ПОЛЬСКАЙ ШКОЛЫ.

в. **Дзяцялаўцы**, Воўпянскай гміны, Горадзенскага пав. Было гэта ў цёплую ліпнёвую нядзелю. Шэрая і ціхая наша беларуская вёска ажывілася нязвычайна: — наехала сюды шмат фурманак, аўтамабіль; весела грае аркестра, а ў канцы вёскі, у сэдочку, пад зялёнымі дрэвамі разстаўлена шмат сталоў з рознай выпіўкай і закускай. За сталамі сядзелі: ксяндзы, паветавы староста, войт, вучыцялі і шмат іншых паноў. Яны, выпіўшы і закусіўшы, адны вялі вясёлую гутарку, а другія пашлі танцаваць — пан староста нават з вясковымі дзяўчаткамі беларускамі выбіваўся ў вальцы.

Такі быў абраз у нашай вёсцы ў часе ўрачыстых закладзінаў польскае школы.

Гледзячы на ўсё гэта можна было-б падумаць, што тут людзям жывецца вельмі добра.

Аднак далёка ня так, бо вось-жа зараз пры дарозе сядзела грамадка сялян і бядавала, што зрабіць, каб як-не-

будзь і скуль-небудзь знайсьці грошай на аплату падаткаў. А далей, не мала ў нас і такіх, якія ня толькі бядуюць аб падатках, але думаюць і аб тым, каб дзетак сваіх вучыць у роднай школе, на роднай беларускай кніжцы, каб чытаць беларускую газэтку, ды каб прычыніцца да палепшаньня агульнага быту беларускага народу.

Пажадана, адно, каб думкі аб роднай школе, аб палепшаньні быту разьвіваліся і выліваліся ў чын.

Я. Ст.

## НЕ АПУСКАЙМА РУК.

**Моўчадзь,** Баранавіцкага пав. Усе і ўсюды бадай наракаюць, што цяпер для нас Беларусаў жывецца вельмі цяжка і з гэтага цяжкага палажэньня трудна выйсьці, бо шмат усялякіх перашкод. Аднак мы можам выйсьці пераможнікамі нават і з такога цяжкага палажэньня, калі дружна, сьмела і арганізавана будзем у гэтым кірунку працаваць праз свае беларускія культурныя арганізацыі, пашыраючы беларускія кніжкі і газэты. Свая родная культура для матэрыяльнага дабрабыту значыць тое самае, што аднаведна добрае абрабляньне зямлі пад добры ўраджай: як адно, так і другое ёсьць канешнасьцю.

Перамога мусіць быць за намі, бо за намі праўда і права, а праціў нас толькі злыя людзі.

К—я Н—ны.

---

# Хроніка.

### З беларускага жыцьця.

Набажэнствы для Беларусаў-каталікоў. Што нядзелі і сьвята ад 4.IX с. г. ў касьцеле сьвятога Мікалая ў Вільні будуць адбывацца набажэнствы з беларускім казаньнем для беларусаў-каталікоў.

Новая беларуская часопісь. У хуткім часе мае выйсьці ў Вільні першы нумар новае беларускае коопэратыўна-гаспадарчае часопісі, якая мае называцца „Самапомач“. Рэдактарам новае часопісі мае быць інж. А. Клімовіч, на адрэс каторага (Вільня, Полацкая 4—10) можна прысылаць матэрыялы да друку і падпіску. Падпіска да канца сёлетняга году каштуе 1 злот.

Лекцыя. Старшыня Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры Кс. В. Гадлеўскі 28.VIII. прачытаў лекцыю аб рэлігіі і народнасьці, у Гуртку Бел. Інстыт. Гасп. і Культуры ў в. Юшкох Віл.-Троцкага пав.

**Паварот кс. В. Шутовіча** 20.VIII. с. г. вярнуўся на бацькаўшчыну, пасьля больш як трох—гадовага пабыту ў Амэрыцы, ведамы беларускі змагар за правы беларускай мовы ў касьцеле кс. В. Шутовіч.

Кс. В. Шутовіч назначаны на вікарага і прэфэкта школ у Хорашч.

**Назначэньне сьвяшчэньніка А. Кайша.** Віленская Праваслаўная Кансысторыя назначыла ведамага беларускага сьвяшчэньніка А. Каўша на настаяцеля Норыцкага прыходу, Пастаўскага пав.

**Патрыятычнае кіраўніцтва „Schroniska miłośników Narocza.“** У месяцы чэрвені с. г. экскурсія вучняў Віл. Беларускае Гімназіі, будучы на возеры Нарач, якое завуць беларускім морам, затрымлівалася ў „schronisku Miłośników Narocz“ і ўпісалася ў памятковую кнігу пабеларуску, цытуючы строфку верша Я. Купалы:

„К свабодзе роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед,
І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сяньня плача дзед.“

Упіс гэты відаць вельмі не падабаўся для кіраўніцтва „Schroniska“, бо па выезьдзе экскурсіі, карты кнігі, на якіх быў зроблены ўпіс, так склеены, што па ім і сьлед прапаў.

Дык вось да чаго мы дажыліся...

**Беларусы ў Латвіі** Добры прыклад. У Латвіі ўжо некалькі гадоў існуе Таварыства Беларускае Моладзі. Вось-жа Пустынскі Аддзел гэтага Т-ва 12 ліпня с. г. пастанавіў з сродкаў Аддзелу ўстанавіць пры Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі тры стыпэндыі па 20 латаў (каля 30 зл.), для бедных вучняў гімназіі, якія паходзяць з Пустынскае гміны. Апрача таго кожны вучань—беларус з Пустынскае гміны, едучы вучыцца ў Беларускую Гімназію, будзе атрымліваць ад Т-ва Моладзі па 5 латаў на першыя выдаткі.

Гэты добры пачын Пустынскага Аддзезу Таварыства Беларускае Моладзі павінен быць прыкладам для ўсяе беларускае моладзі, а перадусім — ў Заходняй Беларусі, дзе асьвету здабыць Беларусам вельмі цяжка.

**„Беларусы ў Літве.“** Пад гэткім назовам нядаўна вышла ў Рызе брашура К. Езавітава, ў якой ён абгаварвае

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і М. Пяцюкевіч.*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Язэп Найдзюк.**

сучаснае палажэньне Беларусаў у Літве. Ёсьць іх там, паводле К. Е., каля 40.000 чалавек. Паклікаючыся на прыхільнае становішча літоўскае прэсы да беларускага адраджэнскага руху, а так-жа бяручы пад увагу працу нядаўна паўстаўшага ў Літве „Беларускага Культурнага Таварыства“, К. Е. уважае, што калі далей усё пойдзе добра, дык ў хуткім часе Беларусы ў Літве атрымаюць нацыянальна-культурную аўтаномію.

## Усячына.

Вучнёўскія коопэратывы. Вучнёўскія коопэратывы, як адна з форм коопэрацыі, штораз больш і ўва ўсіх краёх распаўсюджваюцца і цяпер іх ёсьць, паводле апошніх падлічэньняў, каля 70 тысяч. Пры Беларускай Філіі Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні ёсьць таксама вучнёўская коопэратыва, толькі нешта апошнім часам яна храмае. А варта было-б, каб была яна ўзорам, і каб беларуская вучнёўская моладзь вучылася ў ёй працаваць палюдзку.

Кангрэс Сацыялістычнае Моладзі. Ад 9—11 кастрычніка с. г, ў Празе Чэскай адбудзецца IV-ты Міжнародны Кангрэс Сацыялістычнае Моладзі

У часе землятрасеньняў згінула 13 мільёнаў асоб. Паводле статыстычных падлічэньняў за апошнія 4 стагодзьдзі ўва ўсім сьвеце ў часе землятрасеньняў згінула 13 мільёнаў асоб.

Юбілей Максіма Горкага. 25-га верасьня с. г. прыпадаюць 40-я ўгодкі літэратурнай творчасьці камуністычнага паэта Максіма Горкага. З гэтае прычыны ў Саветах ладзяцца вялікія ўрачыстасьці.

Жыцьцё на Ванэры Апошнім часам газэты падалі тэлеграмы з Вашынгтону (Зл. Шт. Амэрыкі), што амэрыканскія астраномы праф. Адамс і Денхен, пасьля доўгіх сваіх навуковых досьледаў, даказываюць, што зусім магчыма, што на плянэце Вэнэры жыцьцё йдзе надобна, як на зямлі

Палёт праф. Пікара. Палёт праф. Пікар ў стратасфэру з Швайцарыі, аб якім мы ўжо пісалі. адбыўся ўдачна. Праф. Пікар на сваім балёне ўзьнёсься на вышыню 17 з паловай кілямэтраў і даканаўшы там розныя навуковыя досьледы, шчасьліва спусьціўся ў Італіі.

Англійскі вучоны Освальд Шорд таксама будуе сабе балён і думае на ём падняцца на вышыню 30 кілёмэтраў.

Калі пачалі выходзіць газэты. Першая тыднёвая газэта пачала выходзіць у 1609 г. у Штрасбургу (сяньня ў Францыі). Першая штодзенная газэта пачала выходзіць у Нямеччыне пад назовам „Lajpciger Cajtung“ у 1660 годзе. Першая славянская газэта вышла ў 1661 годзе ў Кракаве

Ці А. Міцкевіч быў атраўлены? Ведамы польскі літэрат Т. Бой-Жэленскі нядаўна надрукаваў у аднэй з польскіх літэратурных часопісаў стацьцю аб сьмерці вялікага польскага паэта А. Міцкевіча, які родам быў з Беларусі (Наваградчына), паддаючы сумніву афіцыяльныя весткі аб сьмерці паэта.

Як ведама, ўва ўсіх школьных польскіх падручніках падана, што Адам Міцкевіч памёр ад халеры ў Канстантынопалі 28 лістапада 1855 году. Бой-Жэленскі даказывае, што Адам Міцкевіч быў атраўлены польскімі эмігрантамі, зьбліжанымі да асобы графа Замойскага. Зрабілі яны гэта быццам дзеля таго, каб не дапусьціць А. Міцкевіча да выкананьня ягоных

думак, якія маглі-б „запляміць“ імя ня тольki яго ўласнае, але і цэлае Польшчы.

Стацыця Бой-Жэленскага нарабіла шмат шуму і выклікала вялікую дыскусію на страніцах польскае прэсы. Справа да гэтай пары аканчальна йшчэ ня вырашана.

**Вынікі X-е Олімпіяды.** 1-е месца ў нядаўна адбыўшыхся ў Лёс-Анджэлёс олімпійскіх іграх заняла Амэрыка, а асягнутыя рэкорды ў бегах і скоках, а так-жа і ў іншых галінах спорту паказалі проста неспадзяваныя людзкія здольнасьці. І так Амэрыканец Толен прабег 100 мэтраў у працягу 10,3 сэкунды, Фін Лестінен 5000 мэтраў (5 клм.) прабег у працягу 14 мінут і 30 сэкунд, Кусоціньскі(Паляк)прабег 10 клм. у працягу 30 мінут 11,4 сэкунды, а Англічанін Грін прайшоў 50 кілямэтраў за 4 гадзіны 50 мінут і 10 сэкунд, Готон (Канадыец) скочыў у гару на 196 цм. Гордон (Амэрыканец) скочыў у даль на 764 цм. (7мэтраў і 64 цм.).


## „Беларуская Школа ў Латвіі“

папулярна-навуковы, пэдагогічны і грамадзкі штомесячнік беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі, выходзе ў РЫЗЕ, Ільінская вуліца 20, кв. 25.

Штомесячнік асьвятляе жыцьцё беларусаў у Латвіі, а таксама зьмяшчае інфармацыі аб беларусах у Літве і Эсціі (Эстоніі).

Кожны, хто цікавіцца жыцьцём беларусаў у Прыбалтыцы, павінен выпісваць штомесячнік „Бел. Школа ў Латвіі“.

Падпіска ў Польшчы і Заходняй Беларусі прыймаецца ў Рэдакцыі часопісі „ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ ў ВІЛЬНІ, Завальная вул. № 6 кв. 10.

Падпіска на год з перасылкай каштуе 8 злотых.
„ „ поўгода „ „ 5 „

## *Таней як усюды!*

*ПРАДАЕ:*

*1. усялякія беларускія кніжкі,*
*2. беларускія і іншамоўныя школьныя падручнікі,*
*3. усякія школьныя і канцэлярскія прылады*

*Беларуская Кнігарня „ПАГОНЯ“*
*Wilnia, Zawalnaja 6—10.*

*Заказы з правінцыі выпаўняюцца хутка і акуратна.*